# СЛАВА ТАБЕ, КРЫЛАТЫ САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК!

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 65 (1702) | Аўторак, 14 жніўня 1962 года | Цана 4 кап

# „УСХОД-3“...

**11 ЖНІЎНЯ 1962 ГОДА Ў 11 ГАДЗІН 30 МІНУТ ПА МАСКОЎСКАМУ ЧАСУ Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ НА АРБІТУ СПАДАРОЖНІКА ЗЯМЛІ ВЫВЕДЗЕН КАСМІЧНЫ КАРАБЕЛЬ «УСХОД-3». КАРАБЕЛЬ «УСХОД-3» ПІЛАТУЕЦЦА ГРАМАДЗЯНІНАМ САВЕЦКАГА САЮЗА ЛЁТЧЫКАМ-КАСМАНАЎТАМ МАЁРАМ ТАВАРЫШАМ НІКАЛАЕВЫМ АНДРЫЯНАМ РЫГОРАВІЧАМ.**

А. Р. НІКАЛАЕЎ

П. Р. ПАПОВІЧ

## ГЕРАІЧНАЯ ХРОНІКА

Гэта здзіўляючая свет падзея пачалася ў суботу, 11 жніўня 1962 года. У 11 гадзін 30 мінут па маскоўскаму часу на арбіту спадарожніка Зямлі быў выведзен касмічны карабель «Усход-3».

А праз суткі, 12 жніўня, у 11 гадзін 02 мінуты па маскоўскаму часу ў неба зноў стартавала савецкая ракета. Ад зямлі аддзяліўся касмічны карабель-спадарожнік «Усход-4».

Сумесны групавы палёт касманаўтаў, два савецкія спадарожнікі адначасова баразнуюць неба. Бяспрыкладнасць гэтага подзвігу захапіла чалавецтва.

Хто яны, гэтыя два савецкія сокалы, якія ўслед за Юрыем Гагарыным і Германам Цітовым узняліся ў неба, каб прадоўжыць даследаванні касмічнай прасторы?

Біяграфіі двух новых герояў мала чым адрозніваюцца адна ад адной і ад біяграфій іх «нябесных братоў».

Андрыян Рыгоравіч Нікалаеў нарадзіўся ў 1929 годзе ў Чувашыі, у сям'і селяніна-бедняка. Павел Раманавіч Паповіч нарадзіўся ў 1930 годзе ў Кіеўскай вобласці ў сям'і рабочага. Абодва скончылі тэхнікумы, адзін — лесатэхнічны, другі — індустрыяльны.

Далейшыя рысы біяграфій касманаўтаў супадаюць амаль цалкам. Абодва пасля ўступлення ў рады Савецкай Арміі скончылі ваеннае авіяцыйнае вучылішча і сталі ваеннымі лётчыкамі.

Андрыян Рыгоравіч Нікалаеў і Павел Раманавіч Паповіч — члены Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Простыя савецкія людзі, простыя біяграфіі. Але ў іх адлюстравалася эпоха. Гэта пакаленне людзей, якія выраслі ў гады Савецкай улады, выхаваныя Камуністычнай партыяй і бязмежна адданыя ёй. Прадстаўнікі гэтага пакалення будуюць новыя гарады і гідраэлектрастанцыі, асвойваюць цаліну і штурмуюць космас.

Адразу ж пасля вываду на арбіту спадарожніка-карабля «Усход-4» адбылася гутарка па радыётэлефоне трох касманаўтаў — Нікалаева, Паповіча і Гагарына.

У час палёту карабля-спадарожніка «Усход-3» у 16 гадзін 07 мінут маскоўскага часу 11 жніўня адбылася гутарка паміж Першым сакратаром Цэнтральнага Камітэта КПСС, Старшынёй Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчовым і лётчыкам-касманаўтам маёрам А. Р. Нікалаевым.

Касманаўт далажыў М. С. Хрушчову, што палёт карабля-спадарожніка працягваецца, самаадчуванне касманаўта выдатнае, усе сістэмы карабля працуюць выдатна.

— Я вас чую, таварыш Нікалаеў, — сказаў М. С. Хрушчоў. — Я рад, што ў вас добрае самаадчуванне і што апараты ў вас працуюць бездакорна. Віншую вас і ганаруся тым, што вы праявілі мужнасць, здзяйсняючы такі гістарычны палёт.

З героямі-касманаўтамі — сэрцы ўсіх савецкіх людзей.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў 11 жніўня 1962 года перадаў наступную тэлеграму на борт касмічнага карабля «Усход-3»:

«Таварышу Нікалаеву.

Дарагі Андрыян Рыгоравіч!

З вялікай радасцю прачытаў вашу радыёграму.

Уся Савецкая краіна з хваляваннем і захапленнем сочыць за вашым палётам. Народ, партыя ганарацца вамі. Ваш подзвіг, палёт касмічнага карабля «Усход-3», зноў узвялічвае нашу сацыялістычную Радзіму, яе таленавіты і працавіты народ, нашых вучоных, інжынераў, тэхнікаў, рабочых, калгаснікаў.

Прыемна было чуць ваш голас і бачыць вас на экране тэлевізара. І хоць вы знаходзіцеся ў космасе на вялікай адлегласці ад Зямлі, наша цудоўная тэхніка дазволіла бачыць вас вельмі блізка. У мяне было такое адчуванне, нібы вы знаходзіцеся зусім побач. Мы чулі ваш бадзёры голас, бачылі жывыя вочы, рухі рук, назіралі, як вы працуеце, і радуемся таму, што вы адчуваеце сябе добра.

Я гутарыў з вамі, калі вы рабілі чацвёрты віток вакол зямнога шара. Але вам прадстаіць зрабіць яшчэ нямала такіх віткоў. Ад усёй душы жадаю вам, дарагі таварыш Нікалаеў, паспяхова завяршыць палёт і шчасліва прызямліцца. Жадаю вам і ў далейшым добрага здароўя, добрага самаадчування, бадзёрасці.

Упэўнен, што хутка я і мае таварышы — члены Прэзідыума ЦК і ўрада — абдымем вас на нашай Савецкай зямлі».

Савецкі лётчык-касманаўт Паповіч 12 жніўня 1962 года, у 12 гадзін 34 мінуты перадаў Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Савецкаму ўраду, таварышу Мікіту Сяргеевічу Хрушчову:

«Дакладваю — палёт карабля «Усход-4» праходзіць нармальна. Самаадчуванне выдатнае. Ганаруся поспехамі нашай навукі і тэхнікі. Прывітанне ўсяму савецкаму народу».

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў накіраваў на борт касмічнага карабля «Усход-4» наступную радыёграму:

«Таварышу Паповічу.

Дарагі Павел Раманавіч!

Сардэчна віншую вас ад імя Цэнтральнага Камітэта КПСС, Савецкага ўрада і ад сябе асабіста з выдатным подзвігам, які вы здзяйсняеце, уславўляючы савецкі народ, нашу сацыялістычную Радзіму.

Вы ўзняліся ў касмічныя далі ўслед за Андрыянам Рыгоравічам Нікалаевым і разам з ім здзяйсняеце групавы палёт вакол Зямлі. Гэтымі палётамі Савецкі Саюз першым пракладвае шлях групавым палётам у космас.

Наша краіна, савецкія вучоныя, інжынеры, рабочыя стварылі дасканалую тэхніку, а вы, як і іншыя савецкія касманаўты, выдатна асвоілі і ўмела выкарыстоўваеце яе. Усім савецкім людзям прыемна было даведацца, што караблі «Усход-3» і «Усход-4» выйшлі на блізкую адлегласць адзін ад аднаго і ўстанавілі паміж сабою сувязь.

Савецкія людзі захапляюцца вашым подзвігам, подзвігамі савецкіх касманаўтаў.

Размаўляючы з вамі па тэлефоне, я рад быў чуць, што вы бадзёры і адчуваеце сябе добра. Жадаю вам паспяховага завяршэння палёту і шчаслівага прызямлення. Чакаем вас на нашай савецкай зямлі, каб абняць вас і вашага нябеснага брата Андрыяна Рыгоравіча і разам з вамі адсвяткаваць завяршэнне касмічных палётаў».

Калі абодва касманаўты сустрэліся на блізкіх курсах, яны далажылі Зямлі аб тым, што палёт праходзіць паспяхова.

У другой палавіне дня 12 жніўня, калі касмічны карабель «Усход-4» праносіўся над прасторамі нашай краіны, Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў падняў тэлефонную трубку і пачуў голас Паўла Раманавіча Паповіча.

— Чую вас, таварыш Паповіч,— гаворыць Мікіта Сяргеевіч,— чую вас добра! Горача вітаю вас, Павел Раманавіч, віншую з выдатным гераічным подзвігам. Яшчэ раз вітаю і вашага, як мы прывыклі гаварыць, касмічнага брата — таварыша Нікалаева.

— Краіна радуецца,— працягвае размову Мікіта Сяргеевіч,— і чакае вас на сваю Зямлю з тым, каб абняць вас і разам з вамі радавацца поспеху.

Лётчык-касманаўт Павел Раманавіч Паповіч адказвае Мікіту Сяргеевічу:

— Я чую вас добра, таварыш Хрушчоў. Самаадчуванне ў мяне выдатнае. Палёт праходзіць паспяхова. Усе сістэмы карабля працуюць нармальна, сувязь добрая. Выконваю чацвёрты абарот вакол Зямлі. Прыкладу ўсе сілы да таго, каб выканаць заданне партыі і ўрада.

Кароткай была размова Мікіты Сяргеевіча з героем космасу Паўлам Раманавічам Паповічам. Ды гэта і зразумела. Бо за нейкія хвіліны карабель адыходзіць ад пункта сувязі на тысячы кіламетраў. Мікіта Сяргеевіч заканчвае:

— Яшчэ раз вітаю вас, таварыш Паповіч. Рады, што ў вас добры настрой, што апаратура працуе добра, што ў вас бадзёры голас, упэўненасць у вашым касмічным караблі.

Лётчык-касманаўт падпалкоўнік Паповіч дзякуе Мікіту Сяргеевічу за добрыя пажаданні.

13 жніўня М. С. Хрушчоў накіраваў наступную радыёграму савецкім касманаўтам таварышу Нікалаеву Андрыяну Рыгоравічу і таварышу Паповічу Паўлу Раманавічу:

«Цяпер, калі вы, дарагі Андрыян Рыгоравіч, завяршылі двухсутачны палёт, а вы, дарагі Павел Раманавіч, завяршылі сутачны палёт вакол зямнога шара, яшчэ раз віншую і ў думках абдымаю вас.

Жадаю паспяхова выканаць намечаную праграму палёту і шчаслівага прызямлення».

У адказ на прывітанне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова таварышы Нікалаеў і Паповіч радзіравалі з борта караблёў «Усход-3» і «Усход-4»:

«Дзякую Мікіту Сяргеевічу Хрушчову за цеплыню і клопаты, за віншаванне. Прыкладу ўсе сілы, каб палётнае заданне выканаць поўнасцю. Нікалаеў».

«Перадайце Мікіту Сяргеевічу Хрушчову вялікае сардэчнае дзякуй. Я прыкладу ўсе намаганні да таго, каб выканаць пастаўленую задачу, быць здаровым і цэлым. Усё зраблю. Усё зраблю. Паповіч».

* * *

Палёт двух савецкіх сокалаў працягваецца. Праграма вывучэння касмічнай прасторы выконваецца паспяхова.

Удачы вам, героі!

Вось ужо калі сапраўды прафесія паслужыла на карысць! Першымі на Мінскім радыёзаводзе даведаліся пра запуск касмічных караблёў «Усход-3» і «Усход-4» настройшчыкі цэха зборкі радыёпрыёмнікаў.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

# „УСХОД-4“...

**12 ЖНІЎНЯ 1962 ГОДА Ў 11 ГАДЗІН 02 МІНУТЫ ПА МАСКОЎСКАМУ ЧАСУ Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ НА АРБІТУ СПАДАРОЖНІКА ЗЯМЛІ ВЫВЕДЗЕН КАСМІЧНЫ КАРАБЕЛЬ «УСХОД-4». КАРАБЕЛЬ «УСХОД-4» ПІЛАТУЕЦЦА ГРАМАДЗЯНІНАМ САВЕЦКАГА САЮЗА ЛЁТЧЫКАМ-КАСМАНАЎТАМ ПАДПАЛКОЎНІКАМ ТАВАРЫШАМ ПАПОВІЧАМ ПАЎЛАМ РАМАНАВІЧАМ.**

# СЭРЦАМ—З ВАМІ!

*Нашы інтэрв'ю 11—12—13 жніўня*

### Ніл ГІЛЕВІЧ

**Абдымаю,**
**Ганарuся,**
**Радуюся:**
**Аднагодкі дораць свету дзівы —**
**У двухсоткіламетровым радыусе**
**Ад Зямлі**
**Ляцяць сыны Радзімы.**
**Б'юся ў муках,**
**У нямой адчайнасці:**
**Як жа мне адолець прыцягненне**
**Зрыфмавана-ўтульнай**
**прызвычаенасці**
**І ўзляцець вось так**
**Хоць на імгненне!**

### Аркадзь МАЎЗОН

Прадбачу вялікую дадатковую нагрузку для прэзідыума нашага Саюза пісьменнікаў — размеркаванне творчых камандзіровак спачатку на Месяц, а там і на іншыя планеты.

Напісаў і падумаў — а раптам хто-небудзь скажа:

— У такія ўрачыстыя дні і так несур'ёзна!

А я сур'ёзна.

Хочаш не хочаш, а ўздумаеш пісаць пра далёкія сусветы, а тых ведаў, што ў цябе ёсць, сёння не хопіць. Фантастычныя раманы самых апошніх год выдання ўжо састарэлі.

Таму і дазволю сабе ўжо цяпер падаць заяву на такую камандзіроўку. Прашу ўлічыць, што апошні раз карыстаўся такім сродкам вывучэння жыцця, калі яшчэ не было спадарожнікаў.

А калі не жартаваць, хочацца сказаць так.

Пераможны поступ новай эры чалавецтва — камунізм. Усё ясней і ясней відаць яго велічныя абрысы. І як заканамерна, што ў самым пачатку яго будаўніцтва не побач, не паралельна, а ў найцяснейшай узаемасувязі пачынаецца і другая, новая эра чалавецтва — касмічная.

У першым і другім выпадку разведчыкі гэтых новых эраў — грамадзяне Савецкага Саюза, камуністы. Гэта таксама заканамерна.

Вельмі ўжо збітым, сцёртым стала слова — слава! Хочацца знайсці новае. Такое, каб яно куды больш поўна, абдымна, велічна вызначыла нашу радасць, гордасць, любоў да тых, хто сёння ў бязмежных прасторах космасу сцвярджае гістарычную непазбежнасць перамогі камунізма.

Такое слова будзе знойдзена, створана. Ім будуць узнагароджваць герояў сённяшняга дня, чый гераізм застанецца для чалавецтва пуцяводнай зоркай на вякі.

### Пятрусь МАКАЛЬ

**Дзень добры, неба! На цябе**
**ізноўку**
**Глядзіць мільёнавокі шар зямны.**
**Да зор далёкіх у камандзіроўку**
**Ляцяць яго бясстрашныя сыны.**
**Вылечваем мы немату адвечную**
**Вышыняў, што міргалі нам здаля.**
**Вядзе па-руску гутарку сардэчную**
**З нябёсамі савецкая зямля.**
**Мы ў космас насцеж расчыняем**
**дзверы,**
**Каб сустракацца з зорамі часцей.**
**На стол абрус,**
**і Месяц і Венера,—**
**Рыхтуйцеся прымаць зямных**
**гасцей!**

### Ул. СТЭЛЬМАХ,

заслужаны дзеяч мастацтва БССР.

Як бы мы, савецкія людзі, не прызвычаіліся да вялікіх падзей — гэта выдатна, грандыёзна, захапляюча!

Вось дзе крыніца натхнення для нашых працаўнікоў мастацтва! Найвышэйшая гэта задача — стварэнне характару нашых сучаснікоў такога гарту, як Гагарын, Цітоў, Нікалаеў, Паповіч!

### М. ЯРМОЛЕНКА,

акадэмік Акадэміі навук БССР.

Цуда — такое слова, на маю думку, найбольш падыходзіць для ацэнкі вялікіх падзей гэтых незабыўных дзён. Цуда, створанае воляй савецкіх людзей, якія авалодалі вышынямі навукі і тэхнікі.

Касмічныя караблі, якія штурмуюць нязведаныя прасторы, без усялякага сумнення адкрыюць новыя гарызонты даследаванняў і яшчэ больш наблізяць запаветную мэту — палёт савецкага чалавека на іншыя планеты. Можна цвёрда чакаць, што вынікі сумеснага групавога палёту касманаўтаў з'явяцца буйнейшым укладам у сусветную навуку.

Беларускія вучоныя ад усёй душы жадаюць адважным касманаўтам шчаслівага вяртання з бліскучага палёту ў славу нашай радзімы.

### Лідзія АРАБЕЙ

Кожны віток вакол Зямлі, зроблены нашымі касманаўтамі, умацоўвае мір ва ўсім свеце. Дык шчаслівага вам лёсу, дарагія сябры, шчаслівага прызямлення!

### Еўдакія ЛОСЬ

**Равеснікі,**
**Падзякуем таму,**
**Хто пакаленне наша услаўляе!**
**Няхай Зямля ўсміхаецца яму**
**І ўсмешкай шлях касмічны**
**асвятляе!**

**Ён, як і мы, з крынічнае глушы,**
**Як мы, ішоў да мэты цвёрдым**
**крокам...**
**Падзякуем жа хлопцу ад душы,**
**Што вынес мару нашую высока!**

### Іраіда САНКОВА,

намеснік дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя Ул. І. Леніна.

Як савецкі чалавек, як работнік культуры, як маці я бязмежна шчаслівая і ганаруся тым, што наша краіна — радзіма такіх выдатных сыноў, як Юрый Гагарын, Герман Цітоў, Андрыян Нікалаеў, Павел Паповіч!

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ

**Чарада арлоў касмічнага**
**бяздоння,**
**Гляньце, свет вам пляскае ў**
**далоні...**
**Гарады і сёлы, і сталіцы,**
**Усё жывое вамі ганарыцца.**
**Даў народ вам казачныя крылы,**
**Даў любоў для невычэрпнай сілы.**
**Расчыніла будучыня дзверы,**
**Трыумфуе шчасце новай эры.**

### Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

Зямля! Добрая, цёплая Зямля! Якая ты цудоўная ў акружэнні савецкіх спадарожнікаў і караблёў!

Они летят в потоках ветра,
света,
Гремят в эфире.
День и ночь гремят!
И рукоплещут люди им,
ведь это
Стальные мира голуби летят!

### Павел ШЫДЛОЎСКІ,

заслужаны дзеяч культуры БССР.

З твараў хлебаробаў калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Уздзенскага раёна, дзе я жыву і працую, не сыходзяць радасныя ўсмешкі. Мне хочацца назваць іх касмічнымі ўсмешкамі. Сэрца поўніцца гонарам за любімую Айчыну!

— У космасе трэці! Песня прысвячаецца яму! — такі быў першы непасрэдны водгук кампазітара, народнага артыста СССР Яўгена Карлавіча Цікоцкага на хвалюючую падзею — запуск карабля «Усход-3». Пакуль яшчэ нарадзілася толькі мелодыя новай песні, яшчэ не напісаны словы да яе. Але яна паляцела ўжо наўздагон касмічнаму караблю разам з яшчэ адным волатам — касманаўтам чацвёртым.

# ЦУДОЎНА!

